# ЗАКЛЯТЫЯ СКАРБЫ

**Беларускія легенды і паданні**

Уклаў і пераказаў для дзяцей
Уладзімір Ягоўдзік

Ілюстрацыі
Аляксея Навіцкага

МІНСК 1992
"ІТЭКС"

# ЗАКЛЯТЫЯ СКАРБЫ

## Беларускія легенды і паданні

Уклаў і пераказаў для дзяцей Уладзімір Ягоўдзік

Ілюстрацыі Аляксея Навіцкага

ISBN 5-88384-003-5

# ДЗЯЎЧЫНА З ЗАМЧЫШЧА

У нашай рэчцы, што цячэ каля старадаўняга замчышча, людзі часта знаходзяць залатыя і срэбраныя грошы. А на вяршыні замчышча ўночы можна ўбачыць таямнічыя белыя і чырвоныя агеньчыкі. Кажуць, гэта дае пра сябе знаць зачараваны скарб.

Аднойчы ўлетку хлопцы прыгналі сюды на начлег коней. Пад раніцу,калі зусім дагарэла вогнішча, да іх невядома скуль падышла прыгожая дзяўчына з грабеньчыкам у руцэ і давай прасіць:

— Расчашыце мяне!..

Але начлежнікі так перапалохаліся, што ўсе да аднаго паўцякалі ад прыгажуні. Бывалыя людзі пасля казалі, што гэта ім, дурням, зачараваны скарб прасіўся ў рукі, але яны адмовіліся ад незлічонага багацця.



# ЗАЧАРАВАНЫЯ ГРОШЫ

Вяртаўся салдат пасля пабыўкі ўдома на вайсковую службу. Ішоў ён, ішоў і здагнала яго ноч каля нейкай вёскі. Багацей, вядома, у хату служывага не пусціў, на хлеў паказаў, маўляў, і там пераначуеш. Салдат не надта пакрыўдзіўся ад такой гасціннасці — абы страха над галавою. Але ў тую ноч яму штосьці не спалася. Варочаўся з боку на бок, а заснуць не мог. Раптам чуе — хтосьці тупае непадалёку ад хлява. Падхапіўся служывы, давай сачыць, што тут робіцца. Ажно бачыць — ідзе па двары гаспадар, а за плячыма ў яго срэбра звініць у мяшку. Падышоў да ямы, выкапанай каля гумна, азірнуўся, прыслухаўся, потым сыпануў срэбра ў яму і вярнуўся назад у хату. Мусіць, шмат было ў багацея срэбра, бо неўзабаве яшчэ дзве меркі прынёс. І зноў падаўся ў хату. А салдат тым часам адчыніў дзверы хлява, зняў з сябе крыжык і кінуў яго на скарб. Сам не паказваецца, далей назірае.

Багацей прынёс яшчэ тры меркі срэбра. Высыпаў іх у яму і старанна закідаў скарб зямлёю. Тады ўзяў стрэльбу, бабахнуў з яе і сказаў:

— Як гэты стрэл пачуўся далёка, так мае грошы апусціцеся глыбока!

І срэбра адразу зазвінела, правальваючыся ў падзямельную бездань.

Назаўтра раніцай салдат развітаўся з гаспадаром і пайшоў далей сваёй дарогай.

Адслужыўшы ўсе дваццаць пяць гадоў у войску, вяртаўся салдат назусім дахаты. І здарылася так, што трапіў ён у тую самую вёску, дзе калісьці начаваў. Гаспадар, у якога ён спыняўся, даўно памёр. Дзецям сваім ні капейчыны не пакінуў, таму жылі яны вельмі бедна, у галечы. Пашкадаваў салдат небаракаў, сказаў ім, што яны маюць скарб і павёў з рыдлёўкамі да гумна. А перад тым як паказаць, дзе капаць, сказаў:

— Дамовімся так... Тыя грошы, што да крыжыка, — мае, астатнія — вашы.

Спадчыннікі пагадзіліся. Неўзабаве скарб быў адкапаны. Узяў салдат срэбра, насыпанае да крыжыка. Надышла чарга збіраць грошы гаспадарам хаты. Толькі яны знялі крыжык з зачараваных грошай — пачуўся звон, і срэбра невядома куды знікла.

# ЦВЕТ ПАПАРАЦІ

Усё, што вы пачуеце, чыстая праўда. Я нават ведаю, з кім здарылася гэтая дзіўная праява.

Пайшоў неяк чалавек шукаць здатнае дрэва на прасніцу, каб вяроўкі віць. Дзень выдаўся хмурны, сонца не паказвалася з самай раніцы. Мабыць, позна ён выбраўся ў лес, бо пахадзіў якую гадзінку, а ўжо на вечар паказвае. Пабраўся хутчэй дахаты. Пачаў абмінаць вываратні ды калоды, ламачча ўсялякае ды завалы — зусім заблудзіўся, не ведае, куды далей кіравацца. Хадзіў, хадзіў, а тым часам звечарэла. Бачыць, што цёмначы не выбрацца з лесу, мусіў заначаваць у гушчары. Вядома, паляшук у лесе — як дома сябе пачувае, нічога не баіцца. Але ён забыўся, што якраз было Купалле. А на гэтае свята, праўду баюць людзі ці не, усялякая нечысць ладзіць сваё гульбішча. Таму лепш не вытыркацца з хаты — усё-такі спакайней, чым у лесе.

Наклаў чалавек агню і ўспомніў, што сёння Купалле. А як успомніў, дык мароз хапянуў за спіну, а на галаве шапка паднялася. Пачасаў ён сабе плечы, нацягнуў мацней шапку і сядзіць

каля цяпельца. Хоць ноч і цёплая, ажно парыць, а каля агеньчыка ўсё роўна весялей. Сядзеў-сядзеў — стаміўся, прылёг адпачыць. Раптам чуе праз сон — хтосьці тупае, быццам капытамі. Падняў чалавек галаў, зірнуў у адзін бок, у другі — здаецца, нікога няма. А вогнішча ледзь-ледзь цепліцца, бо дровы зусім згарэлі. Пачаў збіраць ламачча. А навокал папараць — па бараду. Прыгледзеўся той чалавеча, а папаратнік цвіце, быццам агеньчыкамі пераліваецца. Пацягнуўся рукою, каб сарваць дзіва-цвет, а тут такое пачалося! Тыцкае нечысць адусюль проста ў вочы сукі ды рагулі...

Схапіў ён ахапку ламачча і бягом да агню. Бяжыць, падмінае папаратнік. У лапцях поўна цвету зіхотнага. Вось і вогнішча. Шпурнуў на яго ламачча і зараз жа абвёў вакол сябе круг. Праз імгненне навокал стала ціха — ніводная галінка не варухнулася.

Потым да вогнішча падышоў нейкі панічок у капелюшы. І давай прасіць аддаць яму лапці за новыя боты. Нават грошы у прыдачу дае. Згадзіўся чалавек, памяняў лапці на боты, а разам з імі і папаратнікавы цвет аддаў. Потым заваліўся на бок ды заснуў як у сябе дома на печы.

А калі прахапіўся — ні ботаў, ні лапцяў, толькі адны галавешкі каля ног ляжаць.



# НАЧНІЦЫ

Начніцы часцей за ўсё гуляюць улетку, калі лес убярэцца ў лісце, на паплавах зацвітуць кветкі, на палетках закаласіцца жыта, а ўсюды так стане хараша, што, здаецца, усё жыццё сядзеў бы сярод зялёных, пахучых лісцяў і красак, якія спавіваюць і поле, і поплаў, і лес.

Але так не бывае, каб усё добра было. Калі навокал прыгожа, а на сэрцы радасна, дык абавязкова бяда зусім блізка. Толькі сонейка схаваецца за лес — лясныя нетры напаўняюцца ўсялякімі галасамі. Рагочуць, гойдаючыся на галінах, русалкі, ломяць дрэвы лесавікі, пагрозліва трашчыць нечысць, з лазовых кустоў выбягае чарада начніц. Хапае тады жаху добрым людзям.

Аднойчы напачатку лета захацелі мы з Данілам налавіць уюноў. Узялі сакі і папхнуліся да возера. Возера плыткае, адна гразюка, а ўюноў — хоць шуфлем шуфлюй. Як бачыш налавілі



паўчоўна. Больш нельга, бо човен ваду зачэрпвае. Ледзь прыпхаліся да берага. Знайшлі сухі грудок і заначавалі пад вярбою. Толькі закурылі люлькі, як раптам паблізу штосьці завераш-чала, запішчала і так зарагатала — аж лес захістаўся. Трэба хутчэй вогнішча класці, бо агню ўсялякая нечысць баіцца. А тут, як на бяду, на грудку няма ні галля сухога, ні карчоў старых. Сядзім і ляскаем зубамі ад страху. Ноч выдалася хмурная, мала што відаць праз галіны вярбы. Пачалі мы пільней прыглядацца, што вакол нас робіцца. Пасярэдзіне возера густы туман стаіць, а ў тумане штосьці мітусіцца, быццам дзяўчаты фартухамі махаюць. Адразу здагадаліся, што начніцы ігрышча спраўляюць.

Ледзь перачакалі ноч. Пачало, дзякаваць Богу, світаць. Прылеглі, каб хоць трохі адпачыць. Не змаглі — рогат і піск не суніманіся. Няма чаго рабіць: падняліся мы і падыбалі да ракі. Адно прадзерліся праз лазу — выскачылі з кустоў начніцы. Падбеглі да ракі і — плюх! плюх! — у ваду.

Мільганулі і больш мы іх не бачылі.

# ПАМОРАК

Якое толькі ліха не даймае людзей! Бяда на бядзе едзе ды бядой паганяе. Пастаіш — бяда нагоніць. Пабяжыш — на бяду наскочыш. І жывеш, як той заяц: куды ні сунься — бядзе ў зубы. Шмат бяды ад Бога. То мароз памарозіць сады і гароды, збажыну ў полі, траву на сенажаці; то град паб'е ўсё, што ацалела, ад марозу ці сіверу; то сонца смаліць, аж зямля гарачая, як прысак, хоць ты ў ёй пячы яйкі... А дасць Бог харошае лецейка — абавязкова ўсякія пошасці ці паморак нападуць на людзей і жывёлу. Тут ужо не абышлося без ліхіх чараўнікоў.

Вось як гэта здарылася ў адной мясцовасці. Была ранняя, вельмі гожая вясна. Кожную ноч ішоў ціхі, цёплы дожджык, а ўдзень свяціла яснае сонейка. Яно галубіла зямлю, нібы матуля сваё дзіцятка. Здаецца, пасадзі на полі малое, дык яно само вырасце, як гарбуз на гародзе. Бачаць людзі, што ўсё расце, як на дражджах. Настала лета. Абмінулі, дзякаваць Богу, навальніцы з градам. І так усё шчодра зарадзіла, што ўвосень хаваць не будзе куды. Толькі не радуюцца людзі багатаму ўраджаю. Так прывык селянін да бяды, што нават лішняе дабро яго палохае. Папаўзлі ад вёскі да вёскі чуткі, што хоць Бог даў шчодры ўраджай, але не будзе каму яго спажываць, бо набліжаецца паморак. Як самай жахлівай бяды спалохаліся людзі небывалага ўраджаю. Ходзяць засмучаныя, нібы ў ваду апушчаныя.

Мінула лета і аб'явіўся паморак. Спачатку ён касіў жывёлу, а потым і за людзей узяўся. У адным далёкім сяле таксама з дня на дзень чакалі бяду. А каб хвароба хутка не выкасіла іхняе сяло, людзі пачалі берагчыся. Нездарма кажуць: беражонага і Бог беражэ. Так і тыя людзі. Пайшлі яны ў лес, звалілі самую высокую хвойку, зрабілі з яе крыж, які саматугам прынеслі да сяла і паставілі на прыгорку, каб адусюль было відаць. Затым дзецюкі доўга церлі адзін аб адзін сухія ясеневыя брусы, пакуль не здабылі агонь. Людзі ўзялі гэты агонь у свае хаціны і ўжо не зводзілі яго. Каля крыжа і ў абодвух канцах вуліцы дзень і ноч палілі вогнішчы, каб паморак не мог пракрасціся ў сяло. Жывёлу загналі ў цёмныя лясы, на балотныя купіны. Парабілі там буданы-кашары і пасвілі статкі да самай зімы. Раніцай і вечарам кожнага дня абкурвалі гаўяда тхарынаю: кінуць на вуголле кавалкі сушанай тхарыны, дый абкурваюць жывёлу. Навокал такі смурод стаіць, аж насы ўсім разрывае. Ніякая хвароба ці пошасць не падкрадзецца.

Мінае восень, хутка замаразкі. Навокал паморак, быццам касою, косіць людзей і жывёлу, а ў гэтае сяло ніяк не можа ўплішчыцца. Тады ён пусціўся на хітрыкі: перакінуўся ў старую бабу і падыбаў глухою сцежкаю да сяла. Дагнаў яго па дарозе адзін чалавек, пытаецца:

— Куды ідзеш, бабця?

— У тое сяло, мой голубе, дзе няма паморку...

Здагадаўся чалавек, хто перад ім. Напалохаўся — аж дух заняло, але не разгубіўся. Набраўся адвагі і кажа:

— Хадзем разам, я пакажу табе дарогу.

Ішлі яны, ішлі, нарэшце падышлі да багністага балота. Далей трэба скакаць па кладках і бярвеннях.

— Ідзі, баба, першая, — кажа чалавек, — ды моцна трымайся за мой кій.

Паслухалася яна, пайшла . А чалавек — следам. Далёка не адышліся: спіхнуў чалавек старую ў багну. А месца выбраў паганае, глыбокае — дна не дастаць. Утапіўся паморак і нават бурбалкі не пайшлі.

Пабег чалавек у сяло, расказаў усім, каго ён сустрэў. Давай людзі яшчэ пільней глядзець, каб не ўбіўся паморак.

Аднойчы паехаў з таго сяла дзядзька на балота па сена. Разварушыў стажок, кладзе сена на воз. Толькі вытаптаў драбінкі, а тут выходзіць з хмызняку страшны аднавокі дзед з доўгаю касматаю барадою. Зірнуў на яго дзядзька і жахнуўся: такога страшнага дзеда яшчэ не даводзілася бачыць. Стары лыпнуў вокам і просіць падвезці яго да сяла.

— Падвезці мне не цяжка... — кажа яму дзядзька, — але нашы людзі не пусцяць цябе. Яны вартуюць, каб у сяло не ўплішчыўся ліхі паморак.

— Э-э, мой даражэнькі, — усміхнуўся стары, — я хоць і бядняк, але нясу людзям шчасце, якое яны не маюць, пакуль жывуць на белым свеце.

— Якое ж тваё шчасце?

— А такое, якое будуць мець і багатыя, і бедныя, і здаровыя, і хворыя, якое зраўняе караля з апошнім жабраком...

Пачуўшы гэта, дзядзька адразу здагадаўся: нясе стары смерць. Толькі яна адна ўсіх раўняе, усім дае роўнае шчасце — і царам, і мужыкам. Спалохаўся дзядзька — пазнаў паморка. Потым кажа:

— Ну, дзеду, лезь на воз! А я цябе прыкідаю сенам — мо хіба так завязу ў сяло.

Залез стары на воз, чалавек зацерушыў яго сенам, прыціснуў, каб не выпаў, жэрдкай, і паехалі яны да сяла. Нарэшце прыехалі на выган. Тут стаяла варта і гарэла вялікае вогнішча. Шапнуў дзядзька хлопцам, хто ў яго на возе. А тыя знарок галосна пытаюцца:

— Што вязеш, дзядзька?

— Дровы.

— Якія дровы? Гэта ж сена!

— Навошта пытаецеся, калі бачыце...

— А ў сене што?

— Як што, шышкі з ігліцаю.

— Гэ, дык ты над намі кпіш! Хлопцы, бярыцеся за воз, зараз паглядзім, што ён вязе.

Уперліся хлопцы ў воз, штурханулі яго з усёй сілы — шухнула сена проста ў вогнішча. Як выбухне агонь — вышэй за лес! А хлопцы кіямі варушаць сухое сена, дровы падкідваюць. Круціўся, круціўся паморак — не можа ўцячы. Спалілі яго людзі, так спалілі, што нават костачак не засталося.

Але нечысць у агні не гарыць. Спачатку згарэла, а потым зноў ажыла. Праўда, людзі з таго дня перасталі паміраць ад паморка, і жывёлу ён не чапаў. Мабыць, моцна напалохаўся злыдзень, як задалі яму вогненную лазню. Уцёк за сіняе мора, за высокія горы. Часам наведваецца ў наш край: парэжа трохі гаўяда, пакосіць людзей — і ўцякае хутчэй назад, баіцца, каб зноў не злавілі і не падсмажылі.

# БОГ І ПОП

Жыў адзін вельмі скупы поп. Нікому ён не спагаджаў. Ні беднякам, ні жабракам. Ідзе аднойчы поп да царквы службу правіць, а насустрач яму стары падарожнік.

— Не дай, бацюшка, з голаду памерці, не пашкадуй хлеба кавалак ці капейчыну...

— Хіба не бачыш, што я на службу іду? — накінуўся на падарожніка поп. — Ці мала вас, абібокаў, тут цягаецца? Згінь з маіх вачэй!

Стары хутчэй павярнуў назад, а раззлаваны поп давай цкаваць яго сабакамі. Тады падарожнік махнуў рукою — і ўсё навокал раптам перайначылася. Вёска кудысьці знікла, на месцы царквы і хатаў вырас лес. Пабаяўся поп заблудзіцца, увязаўся следам за падарожнікам. Доўга яны блукалі па лесе, пакуль выбіліся з нетраў на раздольны луг. У згаладнелага папа аж ногі заплятаюцца. Тут па дарозе ім сустракаецца авечы гурт. Падарожнік купіў у пастуха барана і гаршчок, адышоўся трохі і загадаў папу раскласці агонь. Потым яны ўдвух зарэзалі барана, кінулі ў гаршчок барановае сэрца і дзве ныркі.

— Я здарожыўся, адпачну трохі, — кажа стары папу, — а ты вячэру гатуй. Як зварыцца,



будзі мяне.

Затанцаваў поп вакол гаршка. Сліны поўны рот — так есці хочацца. І не вытрымаў — праглынуў адну баранову нырку. Потым заваліўся на бок і захроп, як пшаніцу прадаўшы.

Прачнуўся падарожнік, раскатурхаў папа:

—Ну, давай паглядзім, што ты згатаваў...

Падсунуў поп гаршчок бліжэй да старога, усё яшчэ не здагадваючыся, што перад ім сам Бог.

— А куды адна нырка падзелася?

— Не ведаю, — паціскае плячыма поп, — я зварыў вячэру і таксама лёг спаць...

— Няўжо разам з намі хтосьці яшчэ быў?

Давай поп клясціся і бажыцца, што не еў нырку.

— Хопіць табе бажыцца! — кажа Бог. — Можа, як мы паснулі, злодзей прыходзіў... Падмацуйся — я не галодны.

Папа есці ўгаворваць не трэба, мігам апаражніў гаршчок. І толькі яны адышліся ад вогнішча, бачаць — ляжыць на дарозе горба золата.

— Вось дык знаходка! — зарадаваўся Бог. — Як будзем дзяліць?

— Як падзеліш, так і будзе, — адказвае поп, а ў самога аж вочы блішчаць.

Падзяліў Бог золата на тры роўныя долі і кажа:

— Гэта траціна — табе, гэта — мне, а гэта трэцяя доля таму, хто нырку з'еў.

Поп ад радасці падскочыў і, ні кропелькі не саромеючыся, прызнаўся:

— Дзядулька, другую нырку таксама я з'еў!

— Ну вось... — нібыта не паверыў Бог. — Як убачыў золата, дык нагаворваць на сябе пачаў. А дзе ты раней быў? Чаму адразу не прызнаўся?

— Дальбог я з'еў! — пачаў бажыцца поп. — Каб я скрозь зямлю праваліўся, калі маню...

— Вось які ты сквапны, — усміхнуўся Бог. — Дзве клятвы ўжо даў: адну — што не еў, а другую, убачыўшы золата, што з'еў. Тады ты паквапіўся на нырку, а цяпер на золата, — і блаславіў прагнага папа: — Будзеш ты браць з жывога і з мёртвага, з беднага і з багатага, і ўсё табе мала будзе.

Махнуў рукою Бог — і зараз жа паўстала назад вёска, а самога не стала.

# ЗМЕЕЎ КАМЕНЬ

Непадалёку ад вёскі Коўтава і Гогалеўкі, пры старой дарозе, што вядзе ад Віркаў да Ігры, ляжыць Змееў камень, у якім ёсць акно і дзверы.

Старыя людзі расказваюць, што калісьці ў гэтым камені жыў аднагаловы змей. З выгляду — зусім як чалавек, нават гаварыць умеў па-чалавечы. І не было ў ваколіцы лепшага за яго краўца. Прынясуць людзі сукно, пададуць праз акно і просяць:

— Пашый, майстрок, абы надзець...

Змей такую абноўку справіць — на любое ігрышча не сорамна паказацца. За сярмягу грошы прыносілі. Змей не злаваўся, калі плацілі мала, усяго некалькі капейчын.

Але крый Божа сказаць яму:

— Майстрок, пашый што-небудзь, каб да царквы схадзіць.

Так пашые, што не знацьмеш, як апранаць: адзін рукаў на спіне прышыты, другога зусім няма... Ды яшчэ грошы назад шпурне, маўляў, падавіся сам імі!

І сталася так, што змей-красавец закахаўся ў дзяўчыну. Яна жыла ў вёсцы Бузер'і. Доўга хавалася яна ад страшыдла. Але ўрэшце скарылася і пайшла за яго замуж. Шмат хто з людзей бачыў: абернецца змей у дугу і ляціць над Лукомльскім возерам. Упадзе на зямлю — абернецца ў чалавечае аблічча. І такі прыгажун, што вачэй не адвесці.

Аднойчы пасвіла дзяўчына ў нядзельку свінні на полі. Прыляцеў да яе змей, сабраў свіней у адзін статак і кажа:

— Пагладзь мяне па галаве, а я адпачну. Ды пільнуй, каб навальнічную хмару не нацягнула...



Лёг і заснуў. Мінула некалькі гадзін, і рантам насунулася вялізная хмара.

“Дакуль я буду слугаваць яму? — падумала дзяўчына. — Няхай спіць — пагляджу, што будзе...” — і не стала будзіць змея.

Бліснула маланка, загрукатаў гром. І толькі ён пракаціўся па небе — прачнуўся змей. Падхапіўся, як ашпараны, з зямлі і крычыць:

— Зжыла ты мяне са свету!..

І з усёй сілы пляснуў па дзявочым твары. На ўсё жыццё памятка засталася, так і памерла, няшчасная, з чорнай пяцярнёй на шчацэ. А сам змей перакуліўся ў дугу і паляцеў праз возера да сваёй каменнай хаціны.

Далёка не адляцеў — смальнуў па пярэваратню пярун. Так смальнуў, аж навокал усё затрэслася. А змею — хоць бы што. Калі змей быў пасярэдзіне возера, яшчэ мацней уперыў па ім пярун. І страшыдла, перакінутае ў дугу, шабултыхнула ў возера. Але ненадоўга, праз хвіліну-другую акрыяла: выхапілася з вады і далей ляціць.

Адзін стары чалавек з Бузер’я сваімі вачыма бачыў гэтае дзіва. Ён і падказаў людзям, што змей пераляцеў праз возера. Да каменнага жытла рукою было падаць, калі па паганцу трэці раз пацэліў пярун. Тут ужо і прыйшоў лятучаму гаду канец.

— Шукайце яго ў полі, — параіў дзяцюкам стары.

Пакуль дзяцюкі шукалі страшыдла, тры дні і тры ночы не аціхаў дождж. Нарэшце знайшлі,

закапалі гада ў зямлю. Дождж адразу спыніўся. Разышліся дзецюкі па хатах, а праз дзень з неба зноў лье, як з вядра. Прыбеглі на поле — ляжыць змей наверсе.

Мо тры ці чатыры разы закопвалі гада, а ён усё роўна выходзіў з-пад зямлі і кожны раз усё бліжэй аказваўся да свайго каменнага жытла. Бывалыя людзі казалі: каб пастаяла надвор'е, змей ажыў бы. Але дзякаваць Богу тады якраз задажджыла — штодня грымелі навальніцы, паўсюль паднялася дужа вялікая вада.

Потым таму бузерскаму старому прыснілася, што трэба склікаць малых дзяцей і папрасіць іх насіць у прыполіках пясок на паганае страшыдла. На дапамогу малым прывялі жарабят з прывязанымі да шыі торбамі. Мо з тыдзень цягалі яны пясок, і засыпалі-такі гада. Больш ён ужо не паказваўся.

І да сённяшняга дня на змеевай магіле стаіць курган.

# ВЕДЗЬМА Ў ВЫГЛЯДЗЕ КАБЫЛЫ

Здзекуюцца ведзьмы над людзьмі, але часам і яны церпяць пакуты. Кажуць, ведзьму можна злавіць уночы на веснавога Юр'я, калі яна гойсае па хлявах і псуе ў загарадах жывёлу.

Жыў непадалёку ад нас адзін гаспадар. Былі ў яго ладныя, дагледжаныя каровы, а прыйдуць з пашы — зусім не даюць малака, быццам хтосьці іх падаіў. Што тут рабіць? Пачаў дзядзька напытваць людзей,каб падказалі, як пазбыцца ліха. І знайшоў-такі чалавека, які параіў, як даць рады нечысці.

Увечары на Юр'я, толькі схавалася сонца і бліснулі на небе зоркі, загнаў гаспадар каровы ў загараду каля хлява, накрэсліў абгарэлым з абодвух канцоў кійком уздоўж плота лінію, а весніцы пакінуў адчыненыя. Праўда, на зямлю барану кінуў, перавітую паміж жалезных зубоў свянцонаю вярбою. А сам схаваўся пад паветкай і цікуе, што з гэтага будзе.

У поўнач, калі ў вёсцы ўсё замерла, падбягае да загарады кабыла. Але куды ні паткнецца — не можа перамахнуць праз плот да кароў. Нарэшце патрапіла ў прачыненыя весніцы. Узвілася ўгору і скокнула ў шчыліну. Толькі апусцілася на ногі — заблыталася ў баране. Б'ецца туды-сюды, а выбрацца не можа, бо надта вострыя аказаліся жалезныя зубы, перавітыя свянцонай вярбой.

Здагадаўся дзядзька, што гэта за кабыла. Накінуў на яе аброць, прывязаў да плота. Стаіць кабыла, дрыжыць, спуджана стрыжэ вушамі. А гаспадар пабег да хаты, дзе жыў каваль, пастукаў у шыбу:

— Выйдзі на хвіліну, Рыгор! Паглядзі, што за дзіва я злавіў!..

Выбег каваль, паглядзеў на кабылу і адразу здагадаўся, што перад ім пачвара. Вярнуўся ён у хату, апрануўся і павялі яны ўдвух з гаспадаром кабылу да кузні. Прывялі, прывязалі. Потым развялі ў горне агонь, падкавалі гадаўку на ўсе чатыры нагі. Ды так падкавалі, што загналі цвікі не у капыты, а ў жывое мяса. Круціцца кабыла, дрыжыць ад болю, быццам трасца яе трасе. Потым гаспадар зняў аброць, а каваль як рэзне кляшчамі ёй па азадку — па-а-ляцела ў чыстае поле.

— Дзякуй табе, братка, — кажа дзядзька суседу-кавалю, — што памог мне пачаставаць як трэба погань. Хадзем у карчму, пасядзім, пагамонім..

Пабудзілі яны карчмара, выпілі па чарцы-другой, дамоў не спяшаюцца. Не заўважылі, як дзень пачаўся. Раптам прыбягае ў карчму маладзіца і проста да гаспадара, што злавіў кабылу. Давай прасіць яго, давай маліць, каб хутчэй ішоў да яе свякрухі.

— Ровам раве свякруха, так цябе хоча бачыць.

— Навошта я ёй здаўся?

— Ліха яе ведае! — развяла рукамі маладзіца. — Схадзі, будзь ласкаў, бо яшчэ памрэ.

Кульнуў дзядзька з кавалём па апошняй чарцы і падаўся да хворай бабы. Прыходзіць і бачыць: у рукі і ногі кабеціны пад пазногці забіты жалезныя цвікі.



— Што з табою, бабка? — пытаецца дзядзька.
А яна ў адказ:
— Ой, не пытайся! Сам добра ведаеш, што вы з кавалём мне ўночы зрабілі...
І давай прасіць, каб выцягнуў з-пад пазногцяў цвікі. Клялася і бажылася, што нікому больш не будзе зла рабіць.
Дараваў гаспадар вядзьмарцы, выцягнуў цвікі, а нас усіх навучыў, як трэба бараніцца ад усялякай пагані.

## БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

Даўным-даўно ў Тураве жыў князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры. Таму і людзей каля сябе збіраў разумных і мудрых.
Выбраўся аднойчы князь на паляванне. Шмат за дзень набіў ён усякай дзічыны. Хацеў ужо трубіць на збор, як раптам убачыў вялізнага старога тура. Пагнаўся князь за турам. Некалькі гартаваных вострых стрэл упілося ў магутнае цела звера, а ён усё роўна імкліва ўцякаў ад лаўца.
Давай князь паганяць каня, каб дагнаць тура. А звер раптоўна спыніўся і крутнуўся насустрач паляўнічаму. Конь з разгону наскочыў на тура і, працяты рагамі, зваліўся на зямлю, падмяўшы пад сябе ездака. Яшчэ імгненне — і князь развітаўся б з жыццём. Выратаваў яго загоншчык Ранцэвіч. Ён зняў з сябе світку і накінуў на вочы туру. Потым ударыў рагацінай звера ў сэрца,

і ён асунуўся мёртвым на зямлю.

Выкарабкаўся князь з-пад каня, падзякаваў загоншчыку і загадаў прыйсці ў абоз па ўзнагароду.

Калі Ранцэвіч прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім куфар з золатам і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата... Але жыццё — даражэй за ўсё на свеце. Вазьмі сабе гэтае бяздоннае багацце.

Загоншчык чалавек быў мудры. Узяў ён кій, разгарнуў чырвонцы, пастукаў па дне і сказаў:

— Праўда твая, княжа, тут вельмі шмат золата. Але дно ў ім можна дастаць, значыць не бяздоннае тваё багацце. Ды золата, княжа, больш патрэбна табе, чым мне, чалавеку простаму. А я прашу ў цябе дар, у якога папраўдзе няма дна...

Задумаўся князь.

— Калі нават я збяру ўсё сваё багацце, ты усё роўна у ім дастанеш дно.

Засмяяўся загоншчык:

— Хадзем, княжа, я пакажу табе бяздоннае багацце.

Адышліся яны ў поле. Узяў загоншчык меч і ўвесь, па самую ручку, загнаў у зямлю.

— Вось, княжа, тваё багацце, у якім няма дна! Яно для аратага даражэй за ўсе на свеце чырвонцы. Грошы могуць украсці, а гэты скарб ніхто не ўкрадзе.

Спадабалася Яраславу мудрасць Ранцэвіча.

— Праўда твая! — пагадзіўся ён. — І таму я даю табе зямлі ажно па дзесятае пакаленне.

Вярнуліся яны ў шацёр. Князь Яраслаў напісаў дарчую грамату загоншчыку Ранцэвічу на ўсю зямлю каля вёскі Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у Вялемічах, жывуць Ранцэвічы. З пакалення ў пакаленне перахоўваюць яны ў вялікай пашане дарчую князеву грамату і, паказваючы яе людзям, расказваюць паданне пра свайго мудрага прашчура.



# ХУТ

У каго ў хаце паселіцца Хут, таму ён вельмі спрыяе ў жыцці: золатам з невядомых скарбаў адорвае, снапы з далёкіх чужых палеткаў у гумно прыносіць. Зрэдку Хута можна ўбачыць увечары на небе. Калі ён ляціць і зіхаціць агнём, дык золата дзесьці знайшоў; калі ж чуваць толькі лопанне крылаў, а самога не відаць — збожжа нясе.

Хута трэба заўсёды шанаваць і смачна карміць. І не забывацца, што любімая Хутава страва — яечня. Таму гаспадыня, падсмажыўшы яйкі, спяшаецца на гарышча, ставіць каля коміна міску і кліча:

— Хут, Хут, хадзі сюды, з'еш яечню!

Вернецца гаспадыня ў хату, а Хут пачынае есці. І абавязкова праз дзень ці два гаспадарам дабром аддзячыць. Тут, на гарышчы, Хут і жыве, а лётае, дзе яму захочацца. Ён таксама можа лёгка перакінуцца ў палена, корч ці старое кола.



Кажуць, быў такі выпадак. Адзін парабак падслухаў, што гаспадыня паклікала Хута есці, пачакаў, калі яна вярнулася ў хату, і з'еў яечню сам. Хут страшэнна разлаваўся, напэўна, падумаў, што з яго пакпілі: паклікалі снедаць, а міска — пустая... У той жа дзень падпаліў ён сядзібу — і хату, і гумно, і хлеў. Збівалі людзі пажар, збівалі, але не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. Непадалёку старое кола ляжыць. Нікому ў галаву не цюкнула, што гэта Хут. Не стала яму дзе жыць, вось ён у кола і перакінуўся.

— Навошта, каб яно згарэла! — сказаў сусед пагарэльцаў і перакінуў кола ў свой двор.

І зажыў той дзядзька прыпяваючы. Усё ў яго ладам пайшло: і жыта добра радзіла, і ўсякае багацце паплыло ў хату.

# ЛЕСАВІК

Жыў у нашай ваколіцы ляснік. Аднойчы ўлетку сенаваў ён непадалёку ад лесу. Цэлы дзень завіхаўся, але да заходу сонца так і не паспеў завяршыць апошні стог. Змарыўся, а дахаты далёка — не хочацца ісці. Надумаўся заначаваць у сене. Памаліўся Богу, павячэраў і заваліўся на бок. Толькі заплюшчыў вочы, чуе — у суседняй вёсцы шчанюк брэша. Як званок заліваецца, спаць не дае. Потым раптам па лесе — трэсь, трэсь, трэсь — быццам хтосьці бяжыць. Падняў галаву ляснік — аж дух заняло. Гоніць па лесе Лесавік зграю ваўкоў. Выгнаў на луг і пытаецца:

— Чуеце, як шчанюк заходзіцца?

— Чуем, — адказваюць ваўкі.

— Дык запомніце, — кажа Лесавік, — калі да года яго не задушыце, дык ён вас тады ўсіх перадушыць.

Сказаў так і пагнаў далей воўчую зграю.

Пераначаваў на лузе ляснік, а назаўтра раненька пабег у вёску. Прыбег і давай пытацца ў людзей, чый гэта шчанюк усю ноч навылёт гаўкаў. Пытаўся, пытаўся — і дапытаўся. Прыходзіць нарэшце да гаспадара сабакі.

— Прадай мне свайго шчанюка.

— Як жа я прадам яго, — не згаджаецца гаспадар, — калі ён такі ўдалы, як званок заліваецца...

Доўга ўпрошваў ляснік гаспадара і купіў-такі шчанюка — тры рублі за яго аддаў. Прывёў дахаты і адразу ў пограб схаваў. Карміў, а на вуліцу — не выпускаў.

Мінуў год і аднаго дня выправіўся ляснік з маладым сабакам на паляванне. Знюхаў сабака ваўка — уміг задушыў шэрага разбойніка. Убачыў мядзведзя — і мядзведзя задушыў. Натрапіў на ласіны след — і лася зарэзаў. Якую жыўнасць не ўбачыць — не адпусціць жывою. Задушыць і кіне. Надушыў дзічыны — возам не забраць.

Прысеў ляснік адпачыць, а за спіною ў яго — трэсь, трэсь!

Азірнуўся — стаіць побач Лесавік.

— Мусіць, ты летась падслухаў, — пытаецца, — што я наказваў ваўкам зрабіць з гэтым сабакам?

Бачыць ляснік — лепш адразу прызнацца:

— Вінаваты, падслухаў...

— Мне не шкада дзічыны, калі ты яе заб'еш і спажывеш, — кажа Лесавік. — А вы ж душыце і кідаеце. Дык паслухай мяне... Каля тваёй вёскі ляжыць вялізны камень. Пад каменем закапаны скарб. Вазьмі яго сабе. А сабаку забі, бо ён усю жыўнасць задушыць у лесе.

Сказаў так Лесавік і знік, быцам яго і не было.

Паклікаў ляснік сабаку. Злажыўся — бэх! бэх! — і забіў са стрэльбы. Тады думае: дай пагляджу, адкуль у сабакі такая сіла вялікая? Разрэзаў, паглядзеў. А ў сабакі ажно дванаццаць нырак.

Потым вярнуўся ў вёску, выкапаў ляснік пад каменем скарб. І зажыў з таго дня прыпяваючы.

# ВЯДЗЬМАК НАСЫЛАЕ НЯЧЫСТУЮ СІЛУ

Пагналі хлопцы коней на начлег. Вядома, падлеткі, хочацца пасваволіць. Давай туды-сюды гарцаваць на конях па выгане. Крычаць, пішчаць, быццам арда татарская. Якраз па выгане ішоў Іван Порца, які з чарцямі, кажуць, знаўся, дружыў з усялякай нячыстай сілай. Спыніўся Порца, крыкнуў на хлопцаў:

— Сціхніце, паршыўцы!

Начлежнікі не паслухаліся, яшчэ мацнейшага нарабілі галасу. Дражняцца, крыўляюцца, языкі паказваюць. Адзін жэўжык нават кукіш вядзьмару паказаў.

Зазлаваў Порца на падшыванцаў, прыгразіў ім:

— Пачакайце, паскуднікі, папомніце вы мяне!

Зарагаталі хлопцы, свіснулі, тузанулі коней і пусціліся навыперадкі з гіканнем.

Заехалі на балота, спуталі коней, а самі выбраліся на сухі грудок, агню наклалі і далей сваволяць. Ноч цёплая. Паветра лагоднае, а неба цёмна-сіняе, быццам валошка. Зоркі — божыя свечачкі — blішчаць, Млечны Шлях зіхаціць, што завецца птушынай дарогай. Супакоіліся хлопцы. Цішыня навокал, як у вусе, чуваць як коні траву хрумаюць. Крыкнуў хтосьці з начлежнікаў. Па балоце такі разлёгся пошчак, аж сябрукі спалохаліся. Праўда, хутка зноў асмялелі, давай усім гуртам дражніцца з пошчакам. Але як яны ні лямантавалі — перакрычаць пошчак не змаглі. Тады пабралі з агню галавешкі і, размахваючы імі, разбегліся па балоце. Здалёку ўбачыш — нібы вогненныя колы па зямлі коцяцца.

Раптам на балоце штосьці свіснула і моцна зарагатала:

— Го-го-го!

Сцішыліся хлопцы, прыслухоўваюцца. І чым больш яны прыслухоўваюцца, тым мацней на ўсе лады заходзіцца жудасны рогат. Здаецца, балота з лесам пасварыліся, лаюцца, на чым свет стаіць.

Спалохаліся начлежнікі. Збегліся ў купу, калоцяцца ад дрыжыкаў, ляскацяць зубамі. Сядзяць ні жывыя, ні мёртвыя, а нячыстая сіла то свісне, то зарагоча, то закрычыць немым голасам. У бедных свавольнікаў душа ў пяткі лезе. Потым агонь патух. Зрабілася яшчэ страшней. Давай нечысць лётаць над самымі галавамі, ледзь не чапляецца крыллем за шапкі...

Перадрыжалі начлежнікі неяк ноч і закаяліся не чапаць больш ведзьмака. Калі пачало світаць, нечысць заплакала, заскуголіла, але мусіла хавацца.

Вось як насылае вядзьмак нячыстую сілу, што служыць яму, нібы свайму пану.

# РАСАМАХА

Старыя людзі расказвалі, што калісьці ў лесе вадзіліся звяры Расамахі. Мабыць, яны памыляліся, бо я сваімі вачыма бачыў Расамаху. Не звер гэта, а нечысць, падобная на жанчыну з распушчанымі валасамі. Кожная пры жыцці забіла сваё дзіцятка, а сама ўтапілася.

Касілі мы з дзецюкамі каля ракі. Знайшлі сухі грудок, пакінулі там торбы з харчамі і ўляглі ў работу. Рана добра касіць — трава расяная, мяккая... Пакуль паднялося сонейка, ладны кавалак скасілі.

Пабег я на грудок па біклагу з квасам. Гляджу — хтосьці пашкамутаў нашы торбы, а біклагу нават на алешыну павесіў. Сабака ці які-небудзь лясны звер такое не ўчыніў бы. Замёр, прыслухоўваюся. Ажно чую — зусім блізенька плача дзіця. Я — да яго, а яно — далей. Я за



лазу, а дзіцятка ў траву. Шукаю ў траве, а малое ўжо дзесьці каля ракі. "Што за ліха?" — думаю сам сабе. Вось дык хітрыкі, але ж і я не ўломак. Пайшоў нібыта да грудка, а потым паціху, на пальчыках, павярнуў зноў да ракі. Там якраз бабравіна была. Падкраўся, гляджу, а на бабровай хатцы жанчына сядзіць і трымае на руках маленькае дзіцятка. "Мусіць, яно плакала..." — падумаў я і цікую далей.

Жанчына тым часам паклала дзіцятка на голле і пачала расчэсваць зялёным шчупаковым грэбнем распушчаныя валасы. Я стаю і дзіўлюся: хто яна такая і чаму сядзіць на бабровай хатцы? Толькі так падумаў — зноў закугакала дзіця. Жанчына перастала расчэсвацца. Паклала малое сабе на нагу і люляе.

Дзецюкі, з якімі я касіў, таксама пачулі, што дзесьці плача дзіця. Спяшаюцца ў наш бок. Пачула Расамаха людзей, схапіла немаўлятка і шабултых у ваду, аж бурбалкі пайшлі.

Прыбеглі дзецюкі. Пытаюцца ў мяне, ці не бачыў я тут дзіця. А я маўчаў, бо усё роўна не павераць. Павярнулі усе разам на сенажаць, каб папалуднаваць. Прыходзім на грудок, а нашы торбы зноў хтосьці параскідаў. Перахрысціўся я перад абедам, і больш Расамаха нас у той дзень не трывожыла.

# КАДУК

Кадук — страшэнная пачвара. Ні чалавек, ні звер, але больш падобны на звера з вялізнай калматаю галавою і шырокаю, ледзь не да вушэй, пашчаю. Як выскаліцца, хочаш не хочаш, а спруцянееш: здаецца, праглыне цябе разам з касцямі і вантробамі.

Людзі, злуючыся, часам кажуць: "Каб Кадук яго ўзяў!" альбо "Вазьмі яго Кадук!.."

Кадук не заўсёды бярэ, бо мае сілу толькі ў ліхую хвіліну, што выпадае на ўсходзе сонца, у поўдзень і поўнач.

Напэўна, людзей зусім не засталося б, каб гэтая пачвара магла прыходзіць, калі ёй уздумаецца. Кадук не мае ўлады над чалавекам, а чакае, пакуль хтосьці яго пакліча. І прыбягае ён у такі ліхі момант, калі што ні папросіш — усё збудзецца.



# ХТО ВЫДУМАЎ ГРОШЫ

Жыў адзін чалавек. І быў ён такі скупы, што нават шкадаваў людзям вады напіцца. Хлявы поўныя жывёлы, а ён трасецца, як здохне паршывае парасятка; свіран ломіцца ад збожжа, а яму ўсё мала — крукам вісіць над кожным зярняткам, скарыначкі хлеба нікому не дасць. Сваё жыта гніе ў засеках, а ён зайздросціць, калі ўбачыць у суседа палоску пшаніцы. Ад хцівасці высах, як дубец стаў. І не дзіва, бо еў адзін раз на дзень. Намесіць бульбы з мякінай, спячэ на вуголлі і запівае халоднай вадой. А каб смачней было, пасыпае попелам.

Смяюцца людзі з дурнога чалавека, які перабіваецца на мякіне. І празвалі яго за гэта Мякіннікам. Трасецца Мякіннік над сваім дабром, выжыльваецца, каб яшчэ больш багацця займець. Але ў гаспадарцы адно прыбывае, а другое ўбывае, акурат як вада ў рацэ. Скупы збірае, трасецца, а чорт з яго смяецца.

Дачуўся Мякіннік пра папараць-кветку, ад чараў якой дабро само плыве ў рукі. Пачаў распытваць у людзей пра дзівосную кветку і даведаўся, што папараць цвіце адзін раз у год — на Купалле, але вельмі цяжка яе здабыць, бо сцерагуць нікім нябачаныя скарбы чэрці і ўсялякая нечысць. А Мякінніку — абы дабра больш займець, нічога ён не баіцца — так апанавала чалавекам прагнасць і хцівасць.

Нарэшце надышло Купалле. Мякіннік схапіў вялікі мех і пабег у лес. Схавалася, каб адпачыць, сонейка. На небе заблішчалі зоркі. І столькі іх высыпала, што не злічыць.

"Шмат на свеце багацця, — думае Мякіннік, — і вельмі шкада, што нельга ім усім завалодаць..."

Зусім, быццам у мяху, сцямнела ў лесе, толькі дзе-нідзе перамігваюцца зоркі.

"Мо так блішчыць і кветка папараці?" — маракуе Мякіннік, блукаючы па лясных нетрах.

Лазіў ён лазіў у гушчары, ледзь сабе вочы не павыдзіраў. Заблукаў у такі глухі лес, што выбрацца не можа. Пачаў прыслухоўвацца, ці не забрэша дзе-небудзь сабака. Нічуткі не чуваць. Прысеў на пень і не ведае, куды далей кіравацца. Аж раптам у лесе як загуло, як затрашчала! Зірнуў вакол сябе — скачуць чэрці, абняўшыся з ведзьмамі. Вочы блішчаць, быццам жар. Зубы ляскочуць. Спалохаўся Мякіннік, трасецца, як сабака на марозе. Потым бачыць: непадалёку ў папараці штосьці блішчыць, як зорачка. Адразу здагадаўся, што гэта папараць-кветка, кінуўся, каб хутчэй схапіць яе.

Але куды там! Не паспеў і два крокі ступіць, як з крыкам і піскам наляцела нечысць, засланіла дарогу. Спыніўся Мякіннік, не варушыцца, трасе яго трасца. Хацеў перахрысціцца, але збаяўся, што дзівосная кветка знікне.

"Ліха з ім, — думае сам сабе, — усё роўна прападаць... Прадаў бы чорту душу, каб толькі было за што..."

І толькі ён так падумаў — тут як тут з'явіўся чорцік. Падскочыў да чалавека і пытаецца:

— Ты клікаў мяне? Я тут. Будзеш самым багатым у свеце, але прадай мне сваю душу. Непатрэбна яна табе. З-за яе сэрца баліць...

Здагадзіўся Мякіннік прадаць душу. Толькі спытаўся ці доўга будзе спажываць незлічонае багацце.

— Яно заўсёды будзе тваё,— кажа чорт. — І людзі цябе не забудуць. Пакуль свет будзе стаяць, будуць помніць, што ўсё багацце — тваё...

Узяў нячысцік ад Мякінніка пісульку, напісаную чалавечай крывёю, а яму за гэта даў папараць-кветку і навучыў, як ёю карыстацца.

Паплыло з таго дня Мякінніку ў рукі багацце. Неўзабаве столькі дабра ён займеў, што самому ў хаце месца няма. Бачыць, што не сабраць багацце з усяго свету, кліча да сябе чорта.

— Добра, дам я табе зелле, — кажа нячысцік, — што дапаможа тваёй бядзе.

Назбіраў чорт поту, крыві і слёз людскіх, наліў поўны кацёл, потым варыў, варыў і зварыў золата.

— Давай яго хутчэй сюды! — просіць Мякіннік. — У мяне няма такога бліскучага скарбу!

— Не, мы яго спачатку пусцім па людзях, — смяецца нячысты. — Яно збярэ ўсё іхняе багацце і вернецца да цябе.

Затым чорт выдумаў папяровыя грошы. І таксама пусціў па свеце людзей абіраць. Праз некалькі гадоў сабралася ў Мякінніка гэтулькі багацця, што ўвесь свет ён мог купіць. Але не рады багацей, бачыць, што хутка паміраць трэба. Хацеў падкупіць смерць, а яна толькі зарагатала з дурня. Паклікаў знаёмых знахараў і дактароў, каб ад смерці збавіцца, а яны ў адзін голас: усе на свеце паміраюць. Бачыць Мякіннік, што не адкруціцца яму ад кашчавай, пусціўся на хітрыкі. Ссыпаў усё сваё золата ў глыбокі пограб, набраў стравы мо на сто гадоў і сядзіць там, хаваецца ад чорта.

Але аднойчы прыходзіць смерць і кажа:

— Няхай тым стане, чым было!

Толькі яна так прамовіла — разлілося золата потам, крывёю і слязьмі людскімі. Утапіўся ў сваім пограбе Мякіннік. Тут як тут з'явіўся чорт, схапіў Мякіннікаву душу і рагоча:

— Пакуль будзе свет стаяць, датуль будуць людзі цябе ўспамінаць! Бо ўсіх ты дурыў, на поце, слязах і крыві людской жыў!..

# ДЗЯЎЧЫНА І ЗМЕЙ

Змей здольны перакінуцца ў птушку ці чалавека, і ніхто яго не пазнае. Аднойчы змей закахаўся ў прыгожую дзяўчыну — дачку селяніна. Перакінуўся ў статнага дзецюка і ходзіць да яе ў госці. Здарылася гэта ўлетку. Сена акурат скасілі, сушыць ды грэбці самая пара, а няпрошаны госць уваліцца ў хату і сядзіць, жартуе — няма як дзяўчыне вырвацца на сенажаць. Бацька зазлаваў, прыбег клікаць дачку, але моўчкі падаўся назад.

— Мусіць, твой бацька злуецца? — пытаецца ў дзяўчыны дзяцюк.

— Сена скасілі, трэба парадкаваць, пакуль дажджу не нагнала, — кажа дзяўчына, — хоць ты змея кліч на падмогу...

Пасядзелі яны, павуркаталі, як галубкі, а ўвечары дзяцюк кудысьці знік.

Назаўтра прыходзіць дзяўчына разам з бацькам на сенажаць, а іхняе сена да апошняй травінкі падгрэбена, у копы складзена. Хто прыклаў рукі — невядома.

Успомніла дзяўчына ўчарашнюю размову з госцем, здагадалася, што ён — перакінуты ў дзецюка змей. Тут ужо не да любошчаў, трэба ратавацца. Параілася з бацькамі, а тыя з бывалымі людзьмі. Выявілася, што змеі больш за ўсё на свеце баяцца грому і надта любяць, калі іх гладзяць па галаве. Нараілі беднай дзяўчыне пайсці разам з пярэваратнем на бераг возера, прыспаць там яго, а калі ён засне, дачакацца грымотаў і раптоўна пабудзіць яго.

Так дзяўчына і зрабіла. Паклікала госця на бераг возера, залашчыла, прыспала яго, а тут якраз вецер хмары нагнаў, гром загрымеў. Не разгубілася дзяўчына — штурханула пад бок пярэваратня. Дзяцюк страшэнна спалохаўся грымотаў, хутчэй кінуўся ў возера, а на ляту пляснуў рукой па дзявочай шчацэ. У вадзе ён адразу перамяніўся з прыгожага хлопца ў паганага змея.

Неаднойчы потым у сонечныя дні змей вылазіў з вады на бераг, дзе яго прыспала дзяўчына. Збяруцца мужчыны грамадою, скінуць паганага назад у ваду, а ён зноў вылезе. Закапаюць у зямлю, а назаўтра, як заўсёды, змей ляжыць на беразе. Нарэшце людзі даўмеліся, што з ім зрабіць: выкапалі глыбокую яму, кінулі на дно дванаццаць птушыных чарапоў і закапалі гада. Больш ён не паказваўся.

А на шчацэ ў дзяўчыны ад змеевага ўдару на ўсё жыццё застаўся знак.

# ПРЫГОЖАЯ ДУБРОВА

У Белавежскай пушчы ёсць урочышча, якое мясцовыя людзі называюць Прыгожая Дуброва. І вось як узнікла гэтая назва.

У даўнія часы тут жыў адзін пастушок. Адкуль, з якой сям'і ён паходзіў — ніхто не ведаў. Наймаўся хлопчык пасвіць каровы. Спыняўся ў заможных гаспадароў, якія плацілі яму хлебам і адзеннем. Мінулі гады. Вырас пастушок у ладнага дзецюка. Пачаў хадзіць на вячоркі. У скокі з дзяўчатамі не пускаўся, затое вельмі любіў слухаць байкі пра залатыя і разбойніцкія скарбы. Надта ж хацелася маладому пастуху стаць багатым.

Аднойчы хтосьці падказаў яму, што разбагацець можна ў купальскую ноч, калі зацвітае папараць-кветка. Засела ў хлопцавай галаве гэтая падказка. Дзень і ноч ён думаў пра дзівосную папараць-кветку. Ажно гаспадары пачалі наракаць, бо каровы штодня ўбіваліся ў шкоду.

"Як разбагацею, — суцяшаў сябе пастух, — дык адразу з усімі разлічуся..."

Людзі пасмейваліся з дзівака, ніхто з іх не верыў, што папараць сапраўды цвіце. А пастух усё роўна з раніцы і да вечара шукаў па лясных нетрах самы прыгожы папаратнік. І аднаго дня знайшоў-такі незвычайны папаратнікавы куст. Высокі — у чалавечы рост, з вялізнымі разлапістымі лістамі, што звісалі ўніз, быццам казачны зялёны вэлюм. Доўга, як зачараваны, стаяў пастух каля папаратніка. Апомніўся — ужо хаваецца сонца. І тут ён успомніў, што сёння якраз купальская ноч.

Загнаў дзяцюк статак у вёску, а сам хуценька папраставаў назад у лес. Спяшаецца — ажно спатыкаецца. Не бачыць, што следам за ім увязаўся ляснік, які ў хлопцавай спешцы ўбачыў штосьці нядобрае. Няйнакш на звярыну пасткі паставіў!

Прыбег пастух да вялізнага папаратніка, прысеў непадалёку за вываратнем і чакае. Не ведае, што з другога боку вываратня прытаіўся ляснік са стрэльбай у руках.

Сядзеў-сядзеў хлопец, а потым давай ціхенька насвістваць. Раптам чуе — хтосьці адказвае. Здзіўлены пастух падумаў, што яму прымроілася. А ляснік тым часам яшчэ мацней сціснуў у руках стрэльбу: няйнакш пастух з кімсьці змовіўся! Зноў некалькі разоў свіснуў хлопец — і заняло ў яго дух. З папаратніка паказалася вялізная змяя. Выгнуўшыся на хвасце дугою, яна марудна сунулася да пастуха. Хлопец зусім спалохаўся, але ўбачыў у змяіных лапах паўнюткі гаршчок золата, што ажно зіхацела чырвоным агнём. Дзяцюк падняўся насустрач змяі, каб прыняць ад яе скарб. І тут з-за вываратня грымнуў стрэл...

Гэта стрэліў спалоханы ляснік. Выпрасталася змяя на хвасце, абвілася вакол папаратніка, а потым як шугане агонь!

Калі агонь апаў, нічагуткі не засталося: ні папаратніка, ні змяі, ні пастуха з ляснікам. А каля вываратня праз гады вырасла прыгожая дуброва. Людзі кажуць, што якраз тут рассыпалася багацце, якое змяя несла пастуху.

# ГРОШЫ ЦВІТУЦЬ

Пайшлі па вёсцы чуткі, што на беразе ракі, дзе спрадвеку насыпаны курганы, цвітуць грошы. Кажуць, нават бачылі здалёку, як уночы там блішчыць агеньчык. Але толькі накіруешся да яго — агеньчык знікае. Вось і пайшлі гуляць чуткі, маўляў, у курганах ляжаць заклятыя грошы. Гэта яны цвітуць і просяцца, каб іх выкапалі, цяжка марна ляжаць у сырой зямліцы.

Прызнаюцца людзі, што на свае вочы бачылі, як цвітуць грошы, але ніхто не ведае, як імі завалодаць. Нялёгка падступіцца да заклятага скарбу. Нейкі чалавек паспрабаваў, дык такога

набраўся страху, што пасля некалькі тыдняў калаціўся ў ліхаманцы.

У нашай вёсцы жыў Нічыпар, які лячыў свойскую жывёлу. Мабыць, ён трохі знаўся-такі з нячыстай сілай. Падыдзе да наравістага неаб'езджанага каня, пагладзіць па спіне — і конь стаіць, як укопаны. Праўда, адзін раз лекар наскочыў на жарэбчыка, які так прыклаўся капытом, аж у небаракі пярэднія зубы павылятаі.

Аднойчы ўвечары Нічыпар надумаўся прыкішэніць заклятыя грошы, што цвітуць каля рэчкі. Узяў рыдлёўку і падаўся шукаць скарб. Было гэта ўлетку. Ноч выдалася цёмная, але цёплая і ціхая. Толькі Нічыпар выйшаў за вёску — на беразе ракі блiснуў сіні агеньчык. Сунуўся Нічыпар далей, а насустрач яму коціцца штосьці чорнае, быццам капа. Падкацілася пад самыя ногі і рассыпалася ў бакі, аж іскры шуганулі па траве. Ідзе Нічыпар далей. А тут адкуль ні вазьміся - воўчая зграя. Кляцаюць зубамі ваўкі, кідаюцца з ашчэранымі пашчамі... Насілу адбіўся ад іх рыдлёўкай.

Нарэшце дабег Нічыпар да курганоў. І толькі капнуў ён рыдлёўкай зямлю, як раптам моцна загрукацела, курган расступіўся і высунулася нейкае страшыдла. У Нічыпара і дух заняло. Кінуў ён рыдлёўку і так сiгануў дахаты, што сабакамі яго не дагнаў бы.

Прыбег, калоціцца. Такую ліхаманку схапіў, што ледзьве вычухаўся. І да сённяшняга дня невядома, як падступіцца да заклятага скарбу.



# СМЕРЦЬ ЧАРАЎНІКА

Жыў у нашай вёсцы чараўнік, які знаўся з нячыстай сілай. І быў у яго сын. Калі бацька пачаў паміраць, сын папрасіў:

— Навучы мяне чараваць, бо памрэш, а я нічога не буду ведаць.

— Добра, навучу, — згадзіўся стары чараўнік. — Залезь на печ і глядзі на мяне праз хамут.

Сын так і зрабіў. Залез на печ і цікуе праз хамут. Бачыць — канае бацька. Тут як тут зляцеліся чэрці. Мучылі бацьку, мучылі, аж пакуль ён язык не высалапіў. Тады чэрці падзялілі паміж сабою чалавечыя косці, жылы і вантробы, а скуру кінулі. Галоўны чорт залез у яе і рагоча:

— Глядзіце, што я прыдумаў! Няхай замест нябожчыка мяне абмываюць, аплакваюць і хаваюць. Вось нам смеху будзе!

Тым часам збегліся суседзі. Паставілі ў печ ваду грэцца, мерцвяка паклалі ў карыта, каб абмыць перад апошняй дарогай. Суседзі, вядома, радыя, што чараўнік памёр, але хаўтуры спраўляюць па-людску.

Сын таксама злез з печы, сядзеў каля нябожчыка і маўчаў. А потым падскочыў — і да печы.



Схапіў гаршчок з варам і бяжаць да карыта. Убачылі суседзі, што ён хоча лінуць кіпень на бацьку, пачалі сварыцца:

— Што ты робіш?! Ты ж бацьку роднага ашпарыш!..

— Гляньце, які гэта бацька! — адказаў сын.

І плюхнуў вар на мерцвяка. Як трэсне на ім скура! Як сігане чорт у карыце з хаты — толькі яго і бачылі.

## ТРАСЦА

Пайшоў аднойчы ўвесну чалавек па бярозавы сок. Напусціў паўнюткае вядро бярозавіку дый вяртаецца з лесу. Падыходзіць да вёскі, а каля дарогі на плоце нейкая худая паненка сядзіць і жаласліва просіць папіць.

Падаў чалавек ёй вядро. Толькі глытнула яна бярозавіку — знікла, як скрозь зямлю правалілася.

Здагадаўся чалавек, што гэта трасца была, пабег хутчэй дахаты. Пераступіў парог — пачалі калаціць яго дрыжыкі. Потым як узялася трасца трасці — ажно зубы ляскацелі.

Шэсць тыдняў біла небараку трасца, пакуль не памаглі добрыя людзі, што ўмелі суняць паганую пошасць.



# ДАМАВЫ ЕЗДЗІЦЬ НА КОНЯХ

Сядзелі мы ў карчме. Дымім сабе люлькамі, гамонім. Потым заходзіць Купрэй і давай жаліцца, што хтосьці ўночы заезджвае коней у хляве.

— Мабыць, той самы, — кажа Мікіта Кульган. — Летась як прычапіўся да маіх коней, дык ледзь жывымі пакінуў! Я выгладзіў іх, як лялек, а ён за тыдзень заездзіў — адна шкура ды косці засталіся.

— І з маімі тое сталася, — бядуе Купрэй. — Чую сёння ўночы — грукаюць коні. Запаліў лучыну, пабег у хлеў. Адчыняю дзверы, а коні ў мыле, быццам хтосьці гнаў іх няшчадна. Відаць і праўда дамавы цешыцца, ён любіць, калі пад ім гладкія коні... Парадзь, Мікіта-братка, што рабіць. Мо трэба шукаць людзей, каб нагавор адрабілі? Ці зайздроснае вока таму віною?..

— Ды плюнь ты, Купрэй, не паможа! — кажа Мікіта. — Паслухай, што я зрабіў. У мяне



яшчэ горш было, бо я нават не здагадваўся, што гэта дамавы гарцуе на конях. Толькі бачу — як ні кармлю іх, колькі аўса ні сыплю, яны ўсё роўна блажэюць, ледзь ногі перастаўляюць. Дзякуй суседу — у час перасцярог.

— Глядзі, — шапнуў, убачыўшы маю бяду, — ці не дамавы гэта ездзіць на тваіх конях?

Пайшоў я ўночы вартаваць. Залез на вышкі і пазіраю зверху на коней. У мяне над імі, каб цяплей было, салома на жэрдкі накідана. Ляжу, не варушуся і пазіраю праз шчылінку. З вечара коні стаялі ціха, хрумалі сена. Дзесьці каля поўначы перасталі есці, давай пераступаць з нагі на нагу, давай чмыхаць, калаціцца ўсім целам. Быццам бягуць і спыніцца не могуць. Праз якую гадзіну паваліла з маіх канякаў кавалкамі пена.

На другую ноч заселі мы з суседам удвух пільнаваць коней. Запалілі грамнічную свечку і накрылі зверху гаршком. Узялі таксама свянцонай вады. Сядзім, чакаем, пакуль ён не з'явіцца. У поўнач зноў пачалі коні тупаць і дрыжаць. Зняў я гаршчок з грамнічай свечкі — светла ў хляве стала. Зірнулі з вышак уніз і ўбачылі: сядзіць на адным кані сівы дзядок з доўгай барадою і паганяе бізуном маіх коней. Пырснуў сусед на яго свянцонай вадой — ён і знік.

Назаўтра павесіў я ў хляве забітую сароку, што, кажуць, засцерагае ад нячыстай сілы. З таго часу дамавы не чапае коней.

## ХАЛЕРА

Самая страшная халера была ў трыццатым годзе. Рады не маглі ёй даць. Што ні рабілі людзі, як ні сцерагліся, а яна рэжа ўсіх, быццам нажом.

Спачатку пайшлі чуткі, што дзесьці ў мястэчку халера скруціла мешчаніна і мяшчанку. Суседзі, каб уратавацца, запхнулі іх у глыбокую яму і закапалі жыўцом, а ўсе іхнія хатнія транты пакідалі ў рэчку. Вада разам з дабром вынесла за мястэчка і халеру. Паплыла яна ўніз па рацэ і давай касіць людзей па прыбрэжных вёсках. Усіх касіла, нікога не мінала. Ідзе чалавек у поле здаровы, быццам рэпа, а халера перапыніць яго ды як шасне! Пакачаецца, пакачаецца небарака — і дух з яго вон.

Але дзякаваць Богу аднаго дня наскочыла гадаўка на жаўнера-маскаля.

— Прылёг я на сенажаці адпачыць, — расказваў жаўнер потым людзям, — і, мабыць-такі, задрамаў. Праз гадзіну-другую прахапіўся, прадзёр вочы, гляджу, а каля мяне схілілася высокая, худая, як жэрдка, кабеціна, апранутая ва ўсё чорнае. Твар сіні, быццам курыны пуп. Вядома, спалохаўся я, аж мову адняло. Адразу здагадаўся, што за цётачка каля мяне спынілася. Потым думаю сам сабе: ці пан, ці прапаў! Падхапіў гадаўку на рукі — і папёр да ракі. Прывалок на высокі бераг рачны, а ўнізе глыбіня бездонная, чорны вір круціць. Бачыць чорная паненка, што я не жартую, давай прасіцца ды маліцца:

— Адпусці мяне! Не губі! Больш я ніводнай душы не зачаплю!..

Хацелася мне боўтнуць яе, каб ажно бурбалкі пайшлі. А тады разважыў сам з сабою: "Якая будзе карысць, калі яе загублю? А як замест яе новае ліха зробіцца? Лепш адпушчу — не забудзе маёй навукі..."

— Добра, адпушчу цябе, — кажу ёй, — але пабажыся, што ніколі сюды не прыдзеш і не будзеш губіць людзей.

Прысягнула паганка, нават укленчыла, за зямлю схапілася, абяцаючы не паказвацца на белы свет. Адпусціў гадаўку, гляджу, куды яе панясе. А яна — проста на сухі лес, ажно трэск пайшоў. Толькі яе і бачыў.

З таго часу халера знікла, забылася дарогу ў нашы ваколіцы.

# ГАЛАВУ СКЛАДЗЕШ

Штогод цёмнымі восеньскімі вечарамі непадалёку ад лясной рэчкі Ланкі з'яўляўся прывідны агеньчык. Выкаціцца з ляснога гушчару на паляну пад старыя дубы і круціцца, як дзіцячы ваўчок. То ўбок хіснецца, то раптам угору падскочыць, і ўсё зіхаціць, слепіць вочы featured рознымі калёрамі ды адценнямі.

— Няйнакш у заклятым скарбе золата пераліваецца, — убачыўшы гэтае дзіва, меркавалі бывалыя людзі. І перасцерагалі дзецюкоў: — Не хадзіце па скарб. Няпраўдай ён сабраны, смерці людской чакае...

Шмат гадоў з'яўляўся агеньчык, але ніхто з тутэйшых жыхароў не адважваўся шукаць невядома кім закапаны скарб.

Аднойчы ўвосень якраз сюдою валачыўся з вёскі ў вёску стары бадзяга. Пры ім быў вялізны сабака, які верна служыў свайму гаспадару. З самых непраходных нетраў выводзіў ён валацугу, нікога не падпускаў да яго, калі той спаў ці валяўся пад плотам п'яны.

Пачуў бадзяга ад людзей пра закляты скарб, пабег увечары, калі сцямнела, да рэчкі. Падпільнаваў-такі агеньчык дзівосны і выкапаў скарб.

Адкрыў гаршок, а на золаце паперчына ляжыць. На ёй напісана: "Узяўшы мяне, галаву складзеш". Паклікаў бадзяга вернага сабаку, адсёк яму галаву і запіхнуў у пусты гаршчок. А золата ў торбу сваю перасыпаў. Потым закапаў гаршчок і, як на крылах, паляцеў хутчэй да карчмы, што стаяла тады над рэчкаю ў вёсцы Сакалды. Пабег не дарогаю, а нацянькі, не зважаючы на дрыгву ды багну. Надта хацелася ад радасці гарэлкі кварту-другую кульнуць. Бег, бег і раптам уваліўся ў тваністае бяздоннае акно. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата каменем цягне ў багну. Хацеў бадзяга скінуць торбу з заклятым скарбам, а твань па самую шыю засмактала. Зароў ён дзікім голасам — "Ратуйце!" — але замест крыку толькі бурбалкі выскачылі ды праз хвіліну шапка ўсплыла.

Праз год ці два паляўнічыя знайшлі каля рэчкі пад дубам сабачыя косці, а дзеці прынеслі з балота гнілую шапку.

Дрыгву даўно асушылі і засеялі травою. На месцы, дзе ўтапіўся бадзяга з торбаю золата, дзівосны агеньчык не паказваецца.

# АДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ

Калісьці пры дарозе з вёскі Войшыкі ў вёску Заячкі стаяла векавая ліпа. Вяршаліна старадрэвіны даўно засохла, а ніжнія галіны кожную вясну кучаравіліся маладзенькай лістотай.

Людзі расказваюць, што ў даўніну тут сышліся ў зацятай бітве войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. Убачыўшы, што яго войска пабегла пад варожым націскам, генерал схапіў паўнюткі куфар золата, прызначанага на аплату салдацкай службы, і закапаў непадалёку ад ліпы.

Шмат салдат загінулі ў той крывавай бітве. Сёння іх косці ляжаць побач з касцямі непрыяцеляў на старых могілках ва ўрочышчы Прыстань, што каля ракі Нарва. Яшчэ больш салдат трапіла ў палон і разам з генералам пайшло ў чужацкую няволю.

Мінулі гады. Тутэйшыя людзі не раз адпачывалі ў летнюю спякоту пад разлапістай прыга-

жуняй-ліпай, што расла на пагорку каля дарогі. І каб не генерал, які дажыў у чужыне да глыбокай старасці, ніхто не даведаўся б пра закапаны скарб. Перад смерцю генерал пакінуў завяшчанне, дзе ўспомніў пра куфар з золатам. Нават удакладніў, што закапаны ён там, куды сягае цень ад прыдарожнай ліпы.

Генералавы спачыннікі ўміг прыляцелі на месца колішняй бітвы. Адразу пачалі шукаць скарб. Якраз была раніца, і цень ад старога дрэва сягаў вельмі далёка. Вывернулі яму ў чалавечы рост, а там нічагуткі няма. Сонца тым часам паднялося вышэй, і цень перасунуўся на іншае месца. Давай яны зноў завіхацца з рыдлёўкамі. Не паспелі і па калені выкапаць, як цень перабраўся на новае месца...

Капалі спадчыннікі зямлю раніцай, капалі ў поўдзень і ўвечары, а цень кожны раз паказваў на новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц і аніяк не маглі натрапіць на скарб. І толькі тады, калі ад стомы ледзь валачылі ногі, уцямілі: ніколі не знайсці ім скарб, бо ў завяшчанні не сказана, у якую пору года і ў які час дня ён быў закапаны.

Сёння цень нікога не спакушае дакапацца да залатога скарба. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася — невядома нават, дзе яна расла.



# БАННІК

Пайшла дзеўка замуж за старога чалавека. А сама смяецца з мужавай старасці, старым чортам яго называе. Нарадзіўся ў іх хлопчык. Аднаго дня сабралася тая маладзіца ў лазню. І сына з сабою ўзяла. А мужу наказала:

— Ты, стары чорт, пасядзі каля лазні. Сыночка дамоў забярэш, бо я стамлюся...

Праз якую гадзіну памыла яна сына, адчыніла дзверы і пытаецца:

— Ты тут, стары чорт?

— Тут!

— Ну, дык вазьмі малога.

— А, давай, давай...

Выпхнула, не гледзячы, за дзверы сына, а сама далей мыецца. Раптам чуе — муж крычыць:

— Давай хлопца! Хопіць табе яго шараваць!..

— Якога хлопца? — пытаецца маладзіца.— Я ж табе аддала сына!

— Калі?

Давай шукаць яны сыночка. І да сённяшняга дня не могуць яго знайсці. Аддала языкатая маладзіца сына старому чорту Банніку.



# ВАЎКАЛАК

Ішоў я па лесе. А насустрач мне чалавек. З твару — страшыдла, а не чалавек. Касавокі, крывароты, згорблены. У мяне па спіне ажно мурашкі сыпанулі. І няма як убок звярнуць, бо навокал такі гушчар — не прадзярэшся. Сышліся мы. Слова за слова — разгаманіліся. Не вытрываў я і пытаюся:

— Што за хвароба, чалавеча, цябе так знявечыла?

А ён мне кажа:

— І цябе, браце, так скрывіла б, каб ты ваўком пабегаў.

— Няўжо ты ваўкалакам быў?

— А як жа, быў...

Узяла мяне цікаўнасць, што ды як там было. Запрасіў небараку папалуднаваць разам. А пакуль падсілкаваліся, вось што ён мне расказаў.

— Пасварыўся я з суседкай, на якую ўсе казалі, што яна чараўніца. Крыў саломай гумно і скінуў некалькі снапоў на яе каноплі. Прыбегла яна, давай сварыцца.

— Ты мне ўсе каноплі паламаў!

–А хіба я хацеў?– пытаюся ў яе. — Пэўна так ужо Бог даў. Хоць у суд падавай — нічога не адсудіш.

— Добра, — прыгразіла мне суседка-чараўніца, — я сама на цябе ўправу знайду.

Праз тыдзень паехаў я ў лес па дровы. Наклаў цэлы воз, як пацягнуць каню. Пачаў мой конь па дарозе прыставаць. Мусіў я распрэгчы яго і пусціць на траву-мураву. Аж раптам так мне зрабілася на сэрцы нудна, што не выказаць словамі. І чамусьці закарцела абавязкова праз хамут пралезці. Як пралез я праз хамут — так у ваўка і абярнуўся. Тры гады бегаў адзін, а на чацвёрты ваўкі мяне ў зграю сваю прынялі.

Аднойчы загадаў нам апостал Юры з'есці рабага каня. Беглі мы за тым канём сто вёрст. Другіх не чапалі. Нарэшце з'елі рабага каняку. Цэлы тыдзень пасля есці не хацелі. А калі прагаладаліся, паслалі мяне ваўкі зарэзаць авечку. Схапіў я авечку, хацеў у лес валачы, а тут пастух аб'явіўся.

— Ты чаму авечку крадзеш? — пытаецца.

Як скамянеў я — не магу варухнуца з месца. Куды ні гляну — усюды глыбокія ямы. Ваўкі крычаць мне:

— Кідай авечку! Уцякай!

А мне няма куды ўцякаць. Пастух тым часам бліжэй падышоў і загадаў:

— Кінь авечку.

Кінуў я жывёліну, а пастух сперазаў мяне пугай дванаццаць разоў. І толькі ён гэта зрабіў — аб'ехала з мяне воўчая шкура. Зрабіўся я зноў чалавекам, але такім вось брыдкім і страхатлівым.

# НАПАСЦЬ

Вёз чалавек у горад пшаніцу прадаваць. Сустрэлася яму па дарозе баба з кавальскім молатам на плячы. І просіць жаласліва:

— Падвязі, чалавеча, мой молат.

— Добра, падвязу.

Укінула баба молат на воз, а сама побач пешкі ідзе. Потым пытаеца:

— Скажы, гаспадарыку, а ці молішся ты Богу ад злой напасці?

— Навошта мне маліцца? — здзівіўся чалавек. — Яна і так да мяне не прычэпіцца.

— А ты маліся, дзетка, — няўхвальна заківала галавой старая, — бо пашкадуеш, што не маліўся...

Сказала так і залезла на воз. Едуць далей. Пад'язджаюць да горада, баба зноў пра сваё:

— А чаму ты не молішся ад напасці?

Маўчыць чалавек, а сам сабе думае: "Што з дурною бабаю гаманіць..."

Яна ж не сунімаеца, зноў са сваім пытаннем лезе. Так дапякла, аж чалавек прыгразіў:

— Сядзі, калі сядзіш, бо папру з воза!

Нарэшце прыехалі на кірмаш. Выпраг гаспадар коні, паставіў каля воза, сена падкінуў. А баба не злазіць, сядзіць на мяхах з пшаніцай.

— Бяры свой молат ды ідзі, куды табе трэба, — кажа ёй чалавек.

А яна на ўвесь кірмаш:

— Ты чаго прывязаўся да майго воза? Прывезла твой молат, дык яшчэ лаешся!..

Усчалася сварка. Прыбегла паліцыя.

— Што тут здарылася?

Чалавек кажа, што ён падвёз бабу, а баба бубніць, што яна яго падвезла. Вядома, усе заступаюца за бабу, бо кавальскі молат не для жаночых рук. Хацелі ўжо гаспадара ў астрог валачы. Давай ён маліца, хрысціцца і плакаць:

— І не сніў, — кажа, — і не думаў, што такая напасць прычэпіцца!..

Зарагатала тут баба і злезла з воза.

— Глядзі, чалавеча, помні, што я па дарозе табе казала, бо завуць мяне — Напасць.

Сказала так і знікла, як скрозь зямлю правалілася.



# СКАРБ У АЗЯРЫЙСКІМ ГАРАДЗІШЧЫ

Аднойчы позна ўвечары ў вёску Мястэчка прыехаў нейкі пажылы чалавек. Спыніўся на беразе возера і папрасіў рыбака перавезці яго на востраў ды паказаць старадаўняе Азярыйскае гарадзішча. Тым часам зусім сцямнела. Рыбак доўга не згаджаўся, але калі незнаёмец даў яму срэбраны рубель, пакіраваў лодку да вострава. І толькі яны падняліся на вяршыню гарадзішча, як раптам з грукатам адны за адным рассунуліся трое жалезных дзвярэй і паказаўся патаемны склеп. Незнаёмец і рыбак ступілі ў яго і ўбачылі на крэсле невыказнай прыгажосці князёўну. Каля яе ног ляжалі два харты, а па абедзве рукі стаялі куфры, паўнюткія залатых і срэбраных грошай. Незнаёмец нагроб у мех як падняць срэбра і выйшаў. Рыбак таксама падаўся за ім. “Прыбягу сюды заўтра днём. — падумаў ён, — і стану першым багацеем ва ўсёй ваколіцы...”

Назаўтра на світанні ён быў на гарадзішчы. Аднак ні золата, ні срэбра, ні нават муроў каменных з жалезнымі дзвярыма не знайшоў. Перад ім, як і раней, маўкліва горбіўся старадаўні земляны насып, шмат дзе ўскапаны шукальнікамі зачараваных скарбаў.



# ГАЛУБЕЦКІЯ СКАРБЫ

Каля вёскі Галубцова, што ў Гарадоцкім павеце, на беразе возера ёсць гара-валатоўка, якую тутэйшыя людзі называюць Галубец. Кажуць, што ў гэтай валатоўцы схаваны вялікі скарб. Не так даўно з яе нібыта выкапалі ладны, з качан капусты, срэбраны злітак.

Як сведчаць старыя людзі, валатоўка насыпана над нейкім асілкам, які здабыў перамогу над ворагам, але і сам памёр ад цяжкіх ранаў. Разам з ім у глыбокую магілу паклалі і яго незлічоныя скарбы. Непадалёку ад валатоўкі цячэ ручай Красінец. Называецца ён так невыпадкова: адразу пасля бітвы вада ў ручаі была ажно чырвоная ад чалавечай крыві. Шмат хто з мясцовых жыхароў бачыў каля Галубца сівога старца на белым кані. Ён з'яўляўся на вяршыні валатоўкі і невядома куды знікаў, калі да яго набліжаліся смельчакі. Часам замест старца на магіле асілка з'яўляецца пара дзіўных вялікіх коней. Людзі вераць, што яны вартуюць закапаны ў гары-валатоўцы скарб.



# ЯК СКАРБ З-ПАД ПЕЧЫ ВЫХОДЗІЎ

Пабудаваў адзін гаспадар хату. Ды вось бяда — жыць перабраўся, а начаваць у новых сценах баіцца. Кожную ноч вылазіць з-пад печы баран і ўсё палохае:

—Выйду! Выйду!

І няма ніякай рады на праклятага рагача. Хочаш не хочаш, а мусіш уцякаць з хаты, бо ўсё роўна да раніцы не заснеш.

Аднойчы заблукаў у гэтую вёску падарожны і просіцца:

— Гаспадарыку, прымі мяне нанач.

— Куды я цябе прытулю? — развёў рукамі селянін. — Сам у гумне начую, бо ў хаце нейкі нячысты завёўся. Ратунку ад яго няма!



— Мне да страхаў не прывыкаць, — сказаў падарожны, — абы страха над галавою.

— То ідзі начуй, — згадзіўся гаспадар.

Зайшоў падарожны у хату. Запаліў лучыну, а сам на цёплую печ залез. Неўзабаве лучына згарэла, зусім цёмна стала. І толькі певень адкукарэкаў поўнач, як пад печчу хтосьці заварушыўся і пагрозліва загукаў:

— Выйду! Выйду!

У падарожнага валасы сталі дыбам — ён жа ў хаце адзін быў. Але як чалавек бывалы, не разгубіўся: схапіў ладны кій і кажа:

— Ну, то выходзь!

Адно так вымавіў — лезе да яго вялізны страшны баран. Не доўга думаючы, уперыў падарожны рагача па лабаціне. Раптам чуе — штосьці зазвінела. Запаліў лучыну, а замест барана — горба золата ляжыць.

Набраў падарожны колькі змог панесці сабе золата, астатняе гаспадару пакінуў і пайшоў далей вандраваць па свеце.

## ТАТАРКА

Відаць, і праўда тут, у лесе, жыла нейкая прышлая татарка. Нездарма тутэйшыя людзі называюць гэтую мясціну Татаркаю. Расказваюць таксама, што была яна не проста чарадзейкаю, а злою ведзьмаю і разбойніцаю.

Жыла татарка ў лесе пры дарозе. Ідзе непадалёку падарожнік — яна тут як тут. Выскачыць з гушчара, перапыніць і заб'е. Вельмі ж дужая была нягодніца! Адзін раз стукне — і няма чалавека. Доўга яна гаспадарыла, аж пакуль не наскочыла на бывалага жаўнера.

Так ужо здарылася, што мусіў ён ехаць каля татаркі. Добрыя людзі падказалі служываму, як разбойніца сустракае падарожнікаў, таму ён пайшоў на хітрасць. Зрабіў саламянае пудзіла, пасадзіў яго верхам на каня, а сам пайшоў назіркам пешкі. А стрэльбу зарадзіў срэбранаю куляю, бо звычайная куля, кажуць, нечысць не бярэ, толькі срэбранай яна баіцца.

Пачула татарка, што хтосьці едзе. Выскачыла, адным махам збіла з каня саламяны куль, падобны на чалавека, а жаўнер тым часам зладзіўся як след і стрэліў у разбойніцу. Не прамахнуўся — пацэліў.

— Годзе мне жыць ды людзей губіць! — закрычала татарка.

А перад смерцю паказала разбойніца жаўнеру ўсе свае незлічоныя скарбы. Потым спынілася каля ўвахода ў падзямельныя лёхі і проста на вачах у чалавека расцяклася чорнаю смалою, назаўсёды знікла ў падзямеллі.

Але і пасля смерці вядзьмаркі злая сіла доўга не давала спакою людзям. Асабліва тым, хто ехаў ці ішоў сюдою ноччу. Абавязкова прычаплялася страхоцце.

Падарожнікі, каб адбіцца ад наслання, шпурлялі ў заклятае месца сукі і карчы. Яшчэ нядаўна, за нашай памяццю, тут ляжалі цэлыя горы ламачча, але нейкі чалавек адважыўся спаліць усю гэтую завалу.

Цяпер ліхое не заўсёды прывязваецца. Праўда, як адзін вяртаешся апоўначы, такі нагоніць страх, аж мурашкі сыпануць па спіне.

# КАЛЯДНАЯ НОЧ

Калісьці ў даўніну адзін раз у год парабкі елі разам з панамі. І здаралася гэта ў шчодры вечар,на куццю.

Пані-ўдавіца, у якой парабкаваў Юстын, загадала хуценька накрыць стол, каб з першаю зоркаю на небе сесці вячэраць. Страў, дзякаваць Богу, хапала, пра хмельную чарачку пані таксама не забылася.

Калі выпілі і ўсмак паелі, пані сказала Юстыну:

— Пакідаю на цябе маёнтак і ўсё сваё багацце. А сама паеду на ўсяночную імшу.

Дарога да касцёла няблізкая. Юстын мігам падрыхтаваў сані, паклікаў возчыка. Неўзабаве пані паехала. Пасля яе ад'езду Юстын абышоў сядзібу, праверыў замкі на хлявах ды свірнах, потым вярнуўся ў кухню і, сцягнуўшы з сябе світку, прылёг адпачыць на запечку. Ці то ад выпітай чарачкі, ці то ад дзённай стомы, але ён, мабыць, задрамаў. Пабудзіў яго моцны шум. Юстын адразу ўспомніў, што пані наказвала яму вартаваць гаспадарку, памкнуўся басанож на вуліцу, як раптам убачыў на кухні незнаёмых кабет. Спачатку ён падумаў, што пані запрасіла да сябе сяброўак, а потым яму цюкнула ў галаву: "Усе ключы ад маёнтка пры мне! Як жа яны тут апынуліся?!"

Над галавою штосьці моцна загрукатала. Глядзіць Юстын — проста з коміна выскачыла яшчэ адна паненачка. У парабка ад страху мароз па спіне пайшоў. Сцяміў небарака, што нячыстая сіла завітала. А кабеткі скачуць па кухні і нібыта яго не заўважаюць.

"Хоць бы не сцягнулі панскае дабро..." - падумаў Юстын.

І толькі ён так падумаў — лезуць няпрошаныя госці проста на запечак. Хочаш не хочаш, а ўплішчышся, заціснешся ў самы куток. Праз хвіліну-другую запрэглася адна паненка ў саху, а другая давай араць ёю, быццам поле, запечак. Узаралі, пасеялі проса, а яно, як у казцы, проста на вачах расце, адразу закаласілася. Крутнуліся ведьмы па запечку, праверылі ці добра паспела проса, схапіліся за сярпы. Адны жнуць, другія малоцяць, трэція пліту распальваюць... Няйнакш будуць кашу варыць! І праўда: такі смачны пах пайшоў, аж у парабкавым жываце забурчэла.

Юстын даўно забыўся пра страх, цікуе, што далей будзе. Пакаштавала адна ведзьма кашу з гаршка — і ў комін. За ёю і астатнія паляцелі, бо ўсе як адна паспыталі кашу. Злез тады парабак з запечка і — за гаршчок. Не доўга думаючы, зачарпнуў астаткі ведзьмінай кашы ды сабе ў рот. І паляцеў у комін следам за нячыстаю сілай.

Апынуўся Юстын на нейкім балоце. Азірнуўся тыды-сюды, а навокал людносці, як на кірмашы! Непадалёку грае музыка, вірують танцы. І ніводнага мужчыны — адны кабеты танцуюць. Лыпае вачыма парабак, сам сабе не верыць: у карагодзе таньчыць і яго пані-ўдавіца. Яна таксама ўбачыла парабка, хутчэй пашылася да яго.

— Якое цябе ліха прынесла сюды? — пытаецца. — Хто маю гаспадарку пільнуе?..

Расказаў Юстын, як усё здарылася. Азірнулася пані па баках, ці не сочаць за імі, шапнула дзецюку на вуха:

— Сядай на гэтага белага каня і ўцякай дахаты, бо не выйсці табе адсюль жывым!..

Юстыну два разы не трэба паўтараць. Скокнуў ён на каня і ўмомант апынуўся на панадворку. Прывязаў каня да плота, а сам хутчэй у панскія пакоі. Глядзіць — і пані ўжо з імшы вярнулася. Пазірае на яго і неяк дзіўна пасміхваецца.

— Што з канём рабіць? — пытаецца ў яе Юстын.

— З якім канём? — здзівілася пані.

Выйшлі яны на панадворак, а да плота — бярозавае палена прывязана.

# ЗМЕСТ

# ЗАКЛЯТЫЯ СКАРБЫ

## Беларускія легенды і паданні

Уклаў і пераказаў для дзяцей Уладзімір Ягоўдзік

Ілюстрацыі Аляксея Навіцкага

Подпісана ў друк з арыгінал-макета 25. 06. 92 Фармат 60*90 1/8. Друк афсетны.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 3.25 Тыраж 200.000 экз. (1-ы завод 100.000 экз.)
Зак. 7531
Цана дагаворная
Выдавецтва фірмы "ІТЭКС"
Надрукавана на Мінскай картаграфічнай фабрыцы.